Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ

БЮЛЕТЭНЬ ПАЛІТЫЧНАГА АДДЗЕЛУ 33-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ.

№ 1 Чацьвер 12 верасьня 1929 г. № 1

## ПРАВЕРЫЦЬ ПАДРЫХТАВАНАСЬЦЬ ДА МАНЭЎРАЎ

У часьцях дывізіі зараз адбываюцца атрадныя тактычныя заняткі, выхады у поле. Праз усю нашую баявую вучобу і праз усю працу на атрадных вучэньнях трэба рыхтавацца да манэўраў. На манэўры мы выходзім, як на адказьнейшую баявую вучобу, якая па сваіх умовах наближаецца да сапраўднае баявое абстаноўкі. Кулакі, папы розных багоў ды спэкулянты баламуцяць народ, каб давесьці, што пачалася вайна, каб насеяць паніку.

Манэўры гэта ня ёсьць вайна, але-ж кожны баец нашай дывізіі мусіць выконваць усе загады, выконваць усю сваю работу, як гэта павінна быць на вайне На манэўрах мы павінны праверыць сваю баявую падрыхтаванасьць, сваю баявую здольнасьць да абароны інтарэсаў рабочых і сялян, да абароны сацбудаўніцтва

Чым лепшыя посьпехі на манэўрах, тым мацней нашая дывізія, тым бояздольней Чырвоная армія.

Шырокім сацыялістычным спаборніцтвам, бязьлітаснай самакрытыкаю недахопаў, раўнаньнем па лепшых чырвонаармейцах, разьдзелах і ротах узьнімем нашую баявую магутнасьць на яшчэ большую вышыню.

Шчыльнаю згуртаванасьцю байцоў наўкола камуністычных ячэек рот, эскадронаў і батарэй, пратварэньнем у жыцьцё заветаў кампартыі давядзем усім ворагам сацыялістычнай краіны, што вялікая наша воля да перамогі сацыялізму, што магутна моц пралет. дзяржавы.

> Пры удзеле самой масы будуць выкрыты усе маючыся у нас недахопы, а таксама і дасягненьні у галіне баявое падрыхтоўкі, клясавага згуртаваньня, сацыялістычнае асьветы і палітыка-маральнага стану частак.
> (З загаду Рэвваенсавету БВА)



## Да прыезду камісіі ЦК УсеКП(б)

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) вызначыў камісію для абсьледваньня частак БВА, у тым ліку і нашай дывізіі.

Камісія ЦК УсеКП(б) праверыць усю нашу баявую падрыхтоўку, становішча партыйнай арганізацыі, палітвучобу.

Камісіяй будзе праверана, як праводзяцца у жыцьцё дырэктывы ЦК, рашэньні РВС Саюзу у адносінах умацненьня адзінства начскладу, рашучага правядзеньня у жыцьцё адзінаначальля, барацьбы з бюракратызмам, адносіны да патрэбаў чырвонаармейцаў, наколькі самакрытыка стала сапраўдным мэтадам работы.

Абсьледваньне будзе утварацца на грунце самага шырокага прыцягненьня мас.

Падзіў заклікае партыйна-камсамольскую арганізацыю, начсклада і усю чырвонаармейскую масу да самае актыўнае дапамогі камісіі у справе адзначэньня нашых дасягненьняў і выкрыцьця недахопаў.

Падзіў прапануе на палітзаняткаx, нарадах начскладу, у палкавым друку шырока растлумачыць значэньне работ камісіі. Палітаддзел дывізіі.

> Камісія ЦК УсеКП(б) праверыць стан партыйнае арганізацыі, яе рост і ленінскае адзінства у барацьбе за генэральную лінію партыі, супроць правых апартуністычных элэмэнтаў,
> (З загаду Рэвваенсавету БВА)

# Аб задачах партыйнае арганізацыі

Аснаўная задача, якая стаіць перад партарганізацыяй, гэта —праз партыйна-палітычную работу забясьпечыць выкананьне задачы, пастаўленай перад дывізіённымі манэурамі, дзе будзе праверана ступень рухавасьці, ініцыятыунасьці, рашучасьці, вынослівасьці і палітычнае падрыхтоукі чырвонаармейца.

Работа партарганізацыі павінна выходзіць з падрыхтоукі да манэураў, забясьпячэньня паходнага руху, забясьпячэньня работы на стаянках як сярод чырвонаармейцаў, так і сярод насельніцтва. Трэба забясьпечыць выкананьне баявых задач, выходзячы з канкрэтных умоў боя.

Манэуры павінны замацаваць дасягненьні, атрыманыя у выніку сацыялістычнага спаборніцтва, выявіць ініцыятыву на працягу усяго пэрыяду манэураў.

Партарганізацыя павінна праверыць, на колькі замацаваліся і ужываюцца дасягненьні, атрыманыя у пэрыяд агляду чырвонае казармы у галіне прывіцьця чырвонаармейцу культурных звычаеў у штодзенным быту.

Манэуры будуць экзаменам, праверкай таго, наколькі работа, праведзеная партарганізацыяй, будзе адпавядаць сапраўднасьці, падрыхтаванасьці разгарнуць работу сярод насельніцтва.

У растлумачальную работу сярод насельніцтва трэ' уцягнуць усю чырвонаармейскую масу.

Кулацтва на весцы будзе рабіць спробы утварыць паніку. З боку ячэек павінна быць своечасовае рэагаваньне і выяўленьне кулацкіх і наогул чужых нам настрояў.

Правільныя узаемаадносіны з насельніцтвам, асьцярожныя, пільныя адносіны да захаваньня палеў, пасеваў, садоў, забясьпечаць посьпех манэураў і яшчэ больш узмацняць змычку Чырвонае арміі з вёскаю.

КАЛАБАЕЎ

# «Тэрармеец» і яго задачы

Палітычны аддзел 33-й Самарскай дывізіі парашыў выпушчаць бюлетэнь, пад назвай «Тэрармеец», які павінен будзе садзейнічаць лепшаму праведзеньню манэураў, усебакова асьвятляць працу і жыцьцё усяе дывізыі, дапамагаючы камандваньню і партарганізацыі выхоўваць байцоў у духу пралетарскай дысцыпліны і сьвядомасьці, праверыць здольнасьць вайскораў у непарарыўна зьмяняючайся паходнай абстаноўцы.

«Тэрармеец» павінен будзе узяць пад абстрэл жорсткай самакрытыкі разгільдзяеў, сымулянтаў, усіх тых, хто пляміць пачэснае імя чырвонаармейца і камандзіра.

„Тэрармеец“ — сябра байца, ён дапаможа яму вырашыць усе хвалюючыя яго пытаньні, ён будзе з ім у паходзе, на адпачынку, у палатцы і на полі.

Усе гэтыя задачы будуць выкананы пры умове сьціслай сувязі «Тэрармейца» з байцамі нашае дывізіі, асабліва з вайскорамі.

Рэдакцыя зварачваецца да усіх вайскораў дывізіі з заклікам дапамагчы ёй справіцца з ускладзенымі на яе задачамі.

Для гэтага вайскор павінен паведамляць у «Тэрармеец» факты аб палітычна-маральным становішчы, аб дысцыплінаванасьці сваёй часткі па кожнаму узводу паасобку у час паходнага руху, дысцыпліне маршу; у час фарсіраваньня ракі—дакладнасьць выведкі і інш; у момант наступу—рашучасьць, сьмеласьць, арганізаванасьць; пры абароне -- уменьне маскіравацца, стойкасьць і г. д.

Адзначаць усе выпадкі нахоўлівасьці, рашучасьці, дакладнага і шпаркага выкананьня загадаў. Пісаць аб панікёрах, шкурниках, ня выканаўшых загады. Дабівацца, каб іншыя чырвонармейцы сталі вайскорамі. Растлумачыць ім задачы і значэньне гэтае працы.

Пісаць аб жыцьці і рабоце сваёй ротнай і батарэйнай ячэйкі, асобных камуністаў і камсамольцаў у часе манэураў. Як адносяцца чырвонаармейцы да насельніцтва, аб працы сярод апошняга, аб адносінах насельніцтва да Чырвонай арміі.

Пісаць толькі аб тым, што добра ведаеш, праверыўшы факты. У баявой абстаноўцы гэта асабліва важна.

Зараз-жа, як напішаш допіс, ня марудзь, прышлі «Тэрармейцу», праз свайго палiткірауніка, камандзіра. На манэурах кожная хвіліна дарага.

«Тэрармеец» мяркуецца выдаваць і пасьля манэураў, у якасьці дадатка да газэты «Магілеускі селянін» Адсюль сувязь вайскора з «Тэрармейцам» павінна застацца і пасьля манэураў. За справу вярбоукі падпісчыкаў на «Магілеускі Селянін»!

Пішы у «Тэрармеец».

Трымай з ім сьціслую сувязь.

Выпісвай і пашырай газэту «Магілеускі Селянін», да якой дадаткам будзе выдавацца «Тэрармеец».

РЭДАКЦЫЯ.

## Па калязінах беларусізацыі

### Несьвядомасьць Зялінскага

(2-й артдывізіен)

Чырвонаармеец Зялінскі не ўсьвядоміў нацыянальнае палітыкі, якая праводзіцца нашай камуністычнай партыяй і тое, што ён фактычна і сам гаворыць па беларуску.

Калі, напрыклад, кніганоша запрапанаваў тав. Зялінскаму пачытаць беларускую кнігу, дык той гаркнуў“:

—Мне гэтая беларуская мова—што дзубешкай па галаве...

Сорамна ставіць так пытаньне, тав. Зялінскі!

Т—ц.

# У частках перад манэўрамі

## Як прайшлі тактычныя занят'кі у палкох?

## НА ВУЧОБЕ

Цяжкі марш, без дарог, у пылу, у умовах нападу з паветра, прайшоў у другім батальёне добра. Усе чырвонаармейцы і начсклад праявілі вялікае імкненьне і жаданьне навучыцца і навучыць.

Калі на манэўрах мы будзем також шпарка хадзіць і наступаць—перамога будзе за намі.

Былі і недахопы. Начскладу трэба зьвярнуць увагу на маскіроўку, дакладнасьць працы і на сувязь з артылерыяй.

Чырвонаармейцам—на шпаркасьць перабежак, акапваньне, асабістую маскіроўку.

Выправіўшы гэтыя недахопы, мы будзем працаваць у полі добра.

99 п. У. Гораў.

## Дрэнна, т. Лісічкін!

На прывале у 6 роце за 40 хвілін была выпушчана ротная шматтыражка. Усе кінуліся яе чытаць Трэцяму узводу газэту чытае сам камандзір узводу т. Лісічкін. Чытае аб тым, што кульузвод выклікау іх на сацыялістычнае спаборніцтва.

— Ну што, адкажам? -- пытаецца ен у чырвонаармейцау. — Адкажам,—заявілі усе і на гэтым—кропка. А як трэба адказаць — аб гэтым Лісічкін не сказау ні слова і пачау чытаць далей.

Тое-ж самае было і пры чытаньні матар'ялу аб падпісцы чыр-цау на трэцюю пазыку індустрыялізацыі і іх выкліку на падпіску астатніх таварышоу.

А ці нельга было гэтыя факты скарыстаць для агітацыі за падпіску?

Пакрыуджаны.

## А Сушынскі нічога і ня бачыу

На палітзанятк, якія праводзіліся ў часе выхаду ў поле 6 верасьня, толькі пятая рота захапіла з сабою карту і дыяграмы.

Асабліва дрэнна праходзілі палітзаняткі ў камэндацкім узводзе 6 роты т. Сушынскага.

Чырвонаармейцы былі распаложаны няўдала—„флангі“ нічога ня чулі. Некаторыя чырвонаармейцы чыталі газэты, лісты: гутарылі паміж сабою, а Сушынскі нічога гэтага чамусьці ня бачыў. Выкладаў ён, ня маючы канспэкта.

К а р.

## СУСТРЭЧА У ШКЛОВЕ.

Выведатрады 33 і 64 дывізій сваю вучобу праводзілі у раёне Шклова.

У дзень прыбыцьця атрадаў была арганізавана сустрэча рабочымі фабрыкі „Спартак“ і прафэсыйнымі саюзамі гораду. Ня гледзячы на дождж, бруд сустрэча прайшла з вялікім пад'ёмам.

З боку мясцовых савецкіх, партыйных і грамадзкіх арганізацыяў праяўлена клапатлівасьць да часткаў Чырвонае арміі. Да 700 падарункаў раздадзена чырвонаармейцам.

На другі дзень праводзіліся спаборніцтвы паміж часткамі па рубцы-джыгітоўцы; кавалерысты паказалі сваю ліхасьць і моц клінка.

У вечары ў летнім тэатры быў праведзены урачысты сход і вечар самадзейнасьці. Чырвонаармейцы і начсклад засталіся вельмі здаволены арганізаванай сустрэчай і падарункамі Гэта яшчэ раз падцьвердзіла поўную рыхтоўнасьць да падтрымкі Чырвонай арміі у паходзе,

Б-ў.

## КАВАЛЕРЫСТЫ на ТАКТЫЧНЫХ

4 дні цягнулася вучэньне выведачнага атраду нашае дывізіі супроць 64-ае

Да выхаду на вучэньне, з боку начскладу і партпалітапа, рату эскадрона была праведзена дастатковая падрыхтоука, якая праводзілася пад лёзунгам, баявога сацыялістычнага спаборніцтва.

Вынік выдавочны. Атрад, у складзе асобнага эскадрона, 33 стр. узвода, узвода станковых кулямётау і гарматы паказаў у працягу усяго вучэньня, добрую тактычную падрыхтоуку.

Байцы выявілі ініцыятыву, разьліковасьць, выносьлівасьць і дысцыплінаванасьць.

Да вялікага недахопу трэба аднесьці не дастатна арганізаваную пераправу адзначалася нейкая маруднасьць у самой пераправе.

У весь час вучэньня, чырвонаармейцы у поунай меры паказалі сваю палітычную сьвядомасьць. Не зауважана ні воднага выпадку скаргау з боку мясцовага насельніцтва і самых байцоу.

Усё вучэньне прайшло з вялікай зацікауленасьцю і зьяулялася падрыхтоукай да дывізіенных манэурау.

Б е л а б а р о д а у.

## Згубіу аддзяленьне

Чырвонаармеец 2-га стралковага разьдзелу 3-яй роты Махтаеў у момант наступленьня роты згубіў аддзяленьне і цэлую гадзіну яго шукаў.



Вось дык баец!
Калі-б усе гэтак рабілі, дык і ваяваць некаму было-б... Па—ў.

## Ня выкрывай вайсковай таемнасьці

[97-й полк]

Чырвонаармеец кулямётнага разьдзелу Калтуноў ня ўмее захоўваць вайсковую таемнасьць.

Адбываліся заняткі роты па абароне. Аддзяленьне станковага кулямёту, дзе і быў т. Калтуноў, знаходзілася каля дарогі. Праходзячыя па дарозе запытвалі Калтунова, якая гэта частка. Калтуноў назваў роту і полк. Гэтым ён выкрыў вайсковую таемнасьць.

Не бярыце прыкладу з тав. Калтунова.

Паўлюкоў.

# Напярэдадні манэўраў

## УВАГА КАНЮ

### На дрэнным кані і сам у бойцы ня пройдзеш, і таварышоў падвядзеш

Кожны баец павінен цьвёрда памятаць, што конь — наш таварыш у бойцы і неабходны працаўнік у тылу.

Што-ж трэба рабіць, каб конь быў здаровы і працаваў на паходзе?

Чырвонаармеец павінен запомніць наступныя правілы абыходжаньня з канём:

— Прыгані атрыманае снараджэньне альбо збрую да каня і трымай яго ў спраўнасьці. Сядлай і запрагай так, каб было моцна і пры язьдзе ня шкодзіла ездаку і каню. Кладзь на сядле і груз на павозцы прыганяй і ўкладвай акуратна і раўнамерна.

— Часьцей аглядай сядлоўку, запрэжку і груз. Дзе слаба — падцягні, а туга — паслаб. Засядланаму і запрэжанаму каню не давай есьці корм з зямлі, не паслабіўшы падпругі, не апусьціўшы церазсядзельніка.

— Пры язьдзе ў калёне галаўному глядзець, каб не ад'яжджаць далёка наперад, а заднім не наяжджаць і не адставаць. Раўнамерны рух захоўвае сілы каню.

— На прывале і начлезе перш за ўсе клапаціся аб кані. Выкарыстай усе мажлівасьці—стаў каня на адпачынак пад ахову ад дажджа, ветра і сквазьняка.

Потнага каня расьцірай саломаю асабліва — ногі, дай выстаяцца і абсохнуць, а потым ужо задавай корм. Аглядзі і ўсяго каня: ці няма дзе пацертасьцяў і ўшыбаў, ці цэлы капыты і падковы. Што прыкмеціш — далажы старэйшаму.

— Напой каня і накармі аўсом на прывале пасьля дачы сена. Калі конь прасохне і накормлены — вычысьці яго і зрабі поўную ўборку.

Паіць каня можна і ў паходзе, толькі пасьля гэтага яго трэба адразу разагрэць рухамі. Потны конь лепей будзе есьці корм на прывале. Для корму коней не бяры кармушак у гаспадароў двароў, а кармі з сваёй торбы.

Выконвай усе паказаньні старэйшых па ўходу за канём. Захварэў конь — адразу далажы старэйшаму, альбо вэтфэльчару, а не чакай, пакуль яны самі заўважаць.

## Пішы у «Тэрармеец»

## Рыхтуемся

У парадку падрыхтоўкі да манэўраў на ваенкорскай галіне ў 99 палку праароблена наступнае:

—Праведзена нарада ваенкораў з пытаньнем аб тым, як працаваць у полі. Закуплена для ваенкораў 100 алоўкаў. Коннай роце выдадзена папера на шматтыражкі. Агульны збор скарыстоўваецца для таго, каб прывучыць ваенкораў працаваць у полі. Зараз значная частка рот пачала выдаваць свае газэты на кожным выхадзе на тактычныя заняткі 6 стралковая рота на прывале здолела выпусьціць шматтыражку ў 5 экз. (пад капірку за 40 хвілін] Былі ў ей і малюнкі.

На манэўрах у нас вялікае месца будзе займаць, як відаць, ротная шматтыражка, а не ільчоўка, бо шматтыражку лягчэй выдаваць.

Адно дрэнна покуль што ў нас: вайскоры мала пішуць у палковую шматты ражку, а калі і пішуць, дык з вялікім спазьненьнем. Над зьнішчэньнем гэтага недахопу і працуе зараз палкавая рэдкалегія.

СУМАР.

## За выкананьне плянау

Аднаго дасягнуў палітапарат 99 палка па выхадах у поле — складаньня плянаў паліт работы кожным палітрукам роты.

Але дрэнна яшчэ з выкананьнем гэтых плянаў. Дрэнна таму, што мала людзей прыцягваецца да паліт работы, а працуе пераважна адзін палітрук, ды яшчэ 3 4 чалавекі.

Партыйцы і камсамольцы, ня кажучы ўжо аб беспартыйным активе, прыцягваюцца да работы зусім слаба.

Вось чаму бываюць выпадкі, калі ў часе некаторых выхадаў у поле чырвонаармейцы зусім ня бачаць газэты, ня ведаюць ні чытачоў, ні кніганош (4 рота)

Па гэтых пытаньнях ужо гаварылася па нарадзе паліт кіраўнікоў і на практычнае вырашэньне іх зьвернута зараз уся ўвага палітапарату.

Партыец.

## САЧЫ ЗА ЗДАРОУЕМ

### ВЫКОНВАЙ НАШЫЯ ПАРАДЫ у ЧАСЕ ПАХОДУ.

Ідучы на манэўры, кожны баец павінен памятнаць, што каб быць самаму здаровым на ўвесь час паходу трэба дакладна выпаўняць гэтыя некалькі прапаноў, якія мы тутака ніжэй прапаноўваем:

Першае: ня трэба браць з сабой у паход лішніх рэчаў: у паходзе кожны грам пратвараецца у кілёграм. Бяры толькі: запасную зьмену бялізны, пару чыстых парцянак, рушнік, мыла, конаўку, лыжку, капялок. Упарадкаваўшы свае рэчы,

### ПАДРЫХТУЙ СЯБЕ ДА ПАХОДУ.

Памятай, моц пехоты — у нагах. Ногі перад паходам абмый, абстрыжы ногці. Калі на нагах мазалі - зьвярніся да ўрача, альбо лекпома, сам іх не зразай. Абуткі змаж жырам, альбо спэцыяльнай мазьзю, альбо натры проста мылам.

### ЯК АПРАНУЦЬ ПАРЦЯНКУ.

Парцянка павінна быць чыстая, мягкая,бяз складак, дзірак і рубцоў. На прывалах, асабліва на першым, папраў прыгонку снараджэньня, пераабуйся, папраў абмоткі і парцянку.

### НЯ Пі СЫРОЙ ВОДЫ

з рэчак, калодзежаў, якія сустрэнуцца па дарозе, а карыстайся гатаванай вадой з сваёй флягі. Пі пакрыху, асобнымі глткамі, затрымліваючы ваду ў роце - тады дольш не захочаш піць.

### НА СТАЯНЦЫ ПРЫВ'ЯДЗІ У ПАРАДАК

свае рэчы. Аглядзі свае ногі. Разуйся і паляжы, падлажыўшы што небудзь пад ногі так, каб яны былі вышэй галавы.

Нясьпелых пладоў зусім ня еж Перад тым як есьці, абавязкова памый рукі.

Калі ацарапаешся ці забаліць што—не лячы сам, зьвярніся да лекпома.

На застаноўках ня май зносін з выпадковымі жанчынамі - можаш заразіцца і захварэць якой небудзь вэнэрычнай хваробаю.

### ПАМЯТАЙ,

каб быць здаровым у часе находу—ты павінен абавязкова выконваць усе нашыя парады.

## НА ВАЙСКОРАЎСКІХ ПАЗЫЦЫЯХ

### Вайскоры на манэурах

Вайскор у часе манэурау павінен ня толькі усё бачыць і усё чуць, але і адабраць з усёй сумы уражаньняу найбольш каштоунае, напісаць ня проста жвавы, але бязьместны малюнок, а даць сваёй заметкай вурок на будучае.

Наш вайскор павінен быць на манэурах вельмі назіральным.

У «Памятцы чырвонаармейцу на манэурах» тав. Тухачэускі так піша аб ролі вайскора:

—Чырвонаармеец - вайскор аказвае вялікаю карысьць агульнай справе, калі дае у газэту сваю заметку з ацэнкай баявых дзеяньяу сваёй часткі на манэурах, раунуючы гэта дзеяньне з усім тым, што ён сам уцяміу і вывучыу за гэтыя гады Але, каб даць такую заметку, ён павінен уважліва назіраць за усім тым, што адбываецца".

Надта карысна будзе выкрываць недахопы у баявой вывучцы сваёй часткі па уражаньнях «палонных» супраціунае стараны. Вайскорам варта пагамаваць з імі аб недахопах, якія тыя заўважылі у час «боя», і зрабіць з гэтага вурок для сваіх байцоу.

Вялікае значэньне набывае і тэмп работы.

Пішы па гарачых сьлядох— не насі замэткі у кішэні, гэта павінен ведаць і памятаць кожны вайскор. Тутака вайскоры і рэдкалегіі павінны шырэй карыстацца тэлефонам, ня шкодзячы, зразумела, апэрацыйнай рабоце сувязі.

Ва усёй працы павінны трымаць сталую сувязь як з палкавымі шматтыражкамі, так і з дывізіённым «Тэрармейцам».

Лявон Штыкавы.

### Па нашых шматтыражках

Перад намі 4 шматтыражакі: „Чырвоны артылерысты", „Отражатель", „Чырвоны сьцяг", і „На варце", датаваныя апошнімі лічбамі жніўня.

Надыходзячыя манэўры знайшлі і занялі найбольш увагі ў газэтах „Отражатель" і „На варце" прысьвяціўшых гэтаму важнаму пытаньню каля адной трэцяй часткі усяго месца.

„Чырвоны сьцяг" на 2 старонках гаворыць аб паводзінах у прыкладнай байцы 9 стралковай роты. Тут разглядаюцца памылкі паасобных камандзіраў і байцоў выпадкі вынаходлівасьці і баявое снароўкі. „Чырвоны сьцяг" лепей іншых і па вёрстцы.

„Чырвоны артылерысты" вызначаецца прыгожым, чытэльным шрыфтом і разнастайнасьцю зьмешчаных заметак. Праўда, тутака няма сталай сыстэматызацыі, дрэнна з „шапкамі".

Агульнае, уласьцівае ўсім шматтыражкам, — імкненьне ахапіць усе бакі чырвонаармейскага быту Выпадкі нядысцыплінаванасьці паасобных таварышоў, вынікі спаборніцтва, парады што чытаць і шмат чаго іншага знаходзе сабё месца на вузеньніх шпальтах.

Але дрэнна, што ў тэй час, як будуецца калгас дывізіі—аб ім у шматтыражках маўчаць. Трэба зьвярнуць увагу і на мову газэт, бо яна значна кульгае.

Бязумоўна, шматтыражкі адыгрываюць у нашых частках вялікую выхаваўчую ролю, вылучаючы новыя кадры вайскораў, спрыяючы ўнічтажэньню розных недахопаў і хібаў.

Юр. Л—ны.

НА АБАРОНУ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БАЦЬКАУШЧЫНЫ ТЭРАРМЕЕЦ

ЗАУСЕДЫ ГАТОУ!

## САЦСПАБОРНІЦТВА

### Зьвязісты выклікаюць

Вайскоры асобнае роты сувязі, прымаючы пад увагу усю важнасьць прадстаячых манэурау у галіне забясьпячэньня баяздольнасьці, тактычнай і спэцыяльнай вывучкі роты, узялі на сябе ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва шэраг абавязацельстваў.

Вайскоры абавязаліся праз выпускаемыя шматтыражкі і сваім асабовым прыкладам растлумачваць агульныя задачы байцоў, высьвятляць узаемаадносіны байцоў і начскладу, адносіны да вайсковае маемасьці і насельніцтва.

— Асьвятляць важнейшыя бягучыя пытаньні унутраной і міжнароднай палітыкі.

— Праверыць якасьць працы вайскораў і газэты ва ўмовах паходнае і баявое абстаноўкі.

Кожны з вайскораў абавязваецца ў сваю работу ўцягнуць шырокія масы чырвонаармейцаў і дапамагчы ім у асьвятленьні паасобных пытаньняў манэўранага жыцьця.

Па гэтых-аснаўных момантах зьвязісты выклікалі на спаборніцтва вайскораў асобнае сапёрнае роты 33.

Выкананьне на практыцы ўсяго вызначанага будзе праверана па сканчэньні манэўраў на сумесным сходзе вайскораў рот.

Х-скі.

## III-я ПАЗЫКА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ

### Даеш пазыку

Падпіска на 3-ю пазыку індустрыялізацыі прайшла па частках дывізіі з вялікім уздымам. Начсклад і чырвонаармейцы горача адгукнуліся на заклік нашае партыі і ўраду.

Кадр дывізіі і часткі корпусу падпісаліся на 112 тыс. рублёў.

Шмат якія з таварышоў падпісаліся на 2-х месячную пэнсію.

Распачалася падпіска сярод пераменнага складу. Ужо некаторыя роты цалком падпісаліся на пазыку. Падпісваюцца ня менш, як на 5 руб.

Але на дасягнутых посьпехах нельга спыняцца. Перад кожным чырвонаармейцам ляжыць задача—папулярызаваць пазыку на весцы праз лісты дамоў сваім бацькам, знаемым, суседзям, праз гутаркі ў час манэўраў з сялянствам.

Наш лезунг: няма пераменьніка, не падпісаўшагася на 3-ю пазыку!

С.

# Абвесьцім рашучую барацьбу супроць антысэмітау,—дапамагаючых кулаку

## Ганьба Мікіцiным і Слабодчыкаву!

Праяўленьне кулацкіх настрояў мае месца ў некаторых чырвонаармейцаў 4-ай батарэі 2 дывізіё а 33 артпалку.

Так, напрыклад, чырвонаармеец Мікіценка Макар, кажа: „калі пачнецца вайна, я пайду ў дэзэртыры".

Мікіценка Арцем кажа «лепш хутар чым ся калектыў бо ў калектыве адзін другому нос ы зрываюць».

Слабодчыкаў,—проста антысэміт.

Усе гэтыя „тыпчыкі", з амож ныя серадняк і падкулачнікі. Яны скачуць пад дудку кулакоў, якія бачучы, што савецкая ўлада сапраўды за батрака, бедняка і серадняка, робяць усё мажлівае каб ян небудзь, навесьці паклёп на справу сацыялістычнай перабудовы вёскі.

На вёсцы гэткія мікіценнавы ды слабодчыковы атрымліваюць рашучы адпор з боку беднаты і сераднятва.

Яшчэ большы адпор яны атрымалі і атрымаюць ў шэрагах Чырвонай арміі.

Байцу рабоча сялянскай Чырвонай арміі не па шляху з дэзэртырамі і падкулачнікамі.

Верны

## Агонь па антысэмітызму

У 99 палку зноу пачынаюць зьяўляцца выпадкі антысэмітызму. На гэты раз у дзевятай роце.

Так, чыр-ц Палоньнікау кажа, што „жыды ня служаць у Чырвонай арміі, а толькі чыста ходзяць. А чыр-ц Дубасаў па заклік аддзяленнага камандзіра Індыха [яурэй] падпісацца на газэту заявіў: „жыды наводзяць новыя парадкі.

Такія размовы падрываюць магутнасьць Чырвонай арміі і служаць на руку кулаку і нэпману. Па іх трэба ўдарыць з усей сілай. Трэба дабіцца таго, каб чыр-цы самі білі па антысэмітызму і яго насіцелях.

Чырвонаармеец.

## Тры вазы жанчын

### Агонь па хлусьлівых чутках!

Пачалі ўжо тыя, хто ня любіць савецкае ўлады, кулакі ды спэкулянты, пушчаць байкі про манэўры.

Гавораць, што гоняць нашых пераменьнікаў на вайну, у Кітай ды яшчэ ня вядома што. Некаторыя і далі веры.

З вёскі Межасядкі, Чарназёмаўскага сельсавету, прыехала ў 99-й полк тры вазы жанчын — раз вітацца з сваімі братамі, дзецьмі ды муж'ямі.

Ледзьве-ледзьве супакоілі жанчын у палку і яны ўпэўніліся ў хлусьні.

Трэба ўсім змагацца з хлусьлівымі чуткамі сярод сялянства.



Чырвонаармеец, растлумачвай правільна мэты і задачы манэўраў, неабходнасьць абароны краіны.

С.

## АДНІМ-ВАДА, ДРУГІМ-КАША

На сьнядаеьне 4 роце суп выдавалі так, што адным заставалася толькі „вада", а другім-выключна каша. Няўжо цяжка было памяшаць і выдаваць усім аднолькава? Акрамя таго, ня была ўзята соль, каб чырвонаармеец, які паважае салёнае, мог падыйсьці да кухні і пасаліць свой суп.

Гэтыя недахопы трэба зьнішчыць.

Стралок.

## ШТО НОВАГА ПА АКРУЗЕ

### За абароназдольнасьць краіны

Надаючы вялікае значэньне абароназдольнасьці нашае краіны АВК абвясьціў двухтыднёвік пасіленьня фонду ГСА Авіяхіму.

У Магілеве двухтыднёвік праводзіцца з 5 па 20 ае, а па раенах з 10 па 25-ае верасьня.

### Зьмена назвы

Па пастанове прэзыдыуму ЦВК ССС вёска Рэчыцё, Чэрыкаўскага раену, пераіменавана ў Рэчыцу-Чэрыкаўскую.

## Частушкі

Выйшлі ўзводы, выйшлі роты—
Грымянулі песьню ў даль...
І аркэстры—звонкім шротам,
І ў вінтоўках зьзяе сталь!

На Усходзе генэралы
Пачалі „падначываць;"
Калі нотаў для вас мала –
Зможам даць і здачы вам...

Вораг меру перайшоў,
Надта зброей ляскае
Ля чырвоных рубяжоў
Краю пралетарскага.

Станем дружна, як адзін
З коньмі і гарматамі,
Каб ахоўваць мір гадзін
Горада й аратага.

Зграю пан сваю наструніў,
Толькі злосць—бяззубая...
...Не глядзі-ж, мая Матруна,
Ня журыся, любая!

Тут зусім ня трэба войкаць
І сьлязы – ніводнае...
На манэўры—як на бойку
За краіну родную!

Хай нясецца над зямлёй
Песьня пракатамі:
Як паклічуць нас у бой—
Пераможам катаў мы!

КАНДРАТ ПАДАРОЖНЫ.

Адказны рэдактар—
А. САМАХВАЛАЎ



Акрліт № 418—а